Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
16 жніўня 2001 г.
№ 33 (529)
Кошт 110 рублёў

## Перадвыбарчая кампанія А. Г. Акт першы

**Сёння, 16 жніўня, Аляксандр Лукашэнка праводзіць аднадзённую паездку па Гарадзенскай вобласці. Канчатковым пунктам візіту сённяшняга кіраўніка дзяржавы з'яўляецца Гродна, дзе Аляксандр Лукашэнка наведае вытворчае прадпрыемства «Хімвалакно».**

У праграме таксама паездка па Шчучынскім раёне і знаёмства з уборачнай кампаніяй у калгасе «Рассвет». Акрамя гэтага, Аляксандр Лукашэнка плануе наведаць у Скідалі гарадзенскі завод медпрэпаратаў. На ўсіх запланаваных на Гарадзеншчыне прыпынках кіраўнік дзяржавы мае намер сустракацца з насельніцтвам.

## 197 кіламетраў пешкі да Вострай Брамы

**17 жніўня каталіцкі касцёл распачне IX Экуменічную пілігрымку пешшу з Беластока ў Вільню. З 20 па 26 жніўня пілігрымка пройдзе па тэрыторыі Гарадзеншчыны. Удзел у ёй возьмуць некалькі сотняў гарадзенскіх вернікаў.**

Ад Гродна да Вільні вернікі адолеюць дарогу ў 197 кіламетраў. Пілігрымка пройдзе праз Азёры, Новы Двор, Радунь, Бутрыманцы, Яшуны. Падчас усяго шляху ўдзельнікі пілігрымкі будуць маліцца, спяваць рэлігійныя спевы.

Павал Мажэйка

## Абразы перадалі музею



**У аўторак 14 жніўня памежнікі 16-га гарадзенскага памежнага атраду перадалі ў Гісторыка-археалагічны музей Гродна восем каштоўных абразоў, датуемых 2-й паловай XIX стагоддзя. Кошт перададзеных абразоў складае 1 мільён 800 тысяч рублёў.**

Святыя праваслаўныя абразы былі канфіскаваныя памежнікамі на пачатку бягучага года на беларуска-польскай мяжы ў гramадзяніна Беларусі. Як паведаміў ПАГОНІ маёр Аляксандр Невяроўскі, старэйшы оперупаўнаважаны ваеннай выведкі КГБ, які прысутнічаў на ўрачыстай перадачы абразоў музею, «за апошнія два гады выпадкі вывазу святых абразоў і антыкварыяту значна павялічыліся. У асноўным абразы трапляюць на Беларусь з Расеі, дзе іх крадуць у цэрквах ды саборах». Абразы, якія ўдаецца вывезці за мяжу, каштуюць там у дзесяткі разоў больш, чым у Расеі.

Галоўны захавальнік гарадзенскага Музею гісторыі рэлігіі Ганна Ляскоўская найбольш адзначыла з перададзеных памежнікамі абраз з выявай святога Юрыя, бо гэты абраз напісаны, што з'яўляецца даволі рэдкай з'явай.

Алесь Зарэмбюк




**17 жніўня** - пераважна без ападкаў;
**18-га** - месцамі кароткачасовыя дажджы. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра **17-18 жніўня** - удзень +25...+30, уначы +13...+18.

# У гарадзенскіх чыноўнікаў здаюць нервы...

**У канцы мінулага тыдню гарадзенская ўлада перайшла да шырокамаштабнага наступу на мясцовую апазіцыю. У чыноўнікаў, магчыма, пачынаюць здаваць нервы з-за ўсвядамлення таго, што яны не здолеюць забяспечыць перамогу на выбарах цяперашняму кіраўніку дзяржавы ў традыцыйна антылукашэнкаўскім рэгіёне.**




Ужо ў акцыю пераследу палітычных апанентаў рэжыму былі ўцягнутыя розныя падраздзяленні міліцыі. Першым «вызначыў сябе» крымінальны вышук. Супрацоўнікі гэтай службы з'явіліся перад лідарам гарадзенскага Маладога Фронту Вадзімам Саранчуковым апранутымі ў цывільнае мужчынамі. Яны затрымалі яго пры выхадзе з рэйсавага аўтобусу Менск-Гродна. Прычынай для затрымання і наступнага вобыску быў быццам бы паступіўшы сігнал, што ў багажы Саранчукова маюцца наркотыкі. Вынік - канфіскацыя дзесяці тысяч налепак і каляндарыкаў з лагатыпам мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай!», якія маладафронтавец прывёз з Менску. Ноч з 9 на 10 жніўня маладзеваму лідару прыйшлося правесці ў пастарунку.

Пакуль сышчыкі былі занятыя неадбыўшымся наркакур'ерам, іншае падраздзяленне (паводле неправеранных фактаў - АМАП) правяла начную засаду каля лецішча галоўнага спецыяліста абласной федэрацыі прафсаюзаў Анатоля Зароўскага, які ўваходзіць у ініцыятыўную групу Уладзіміра Ганчарыка. У Зароўскага было вынята 16 пакункаў спецвыпуску газеты пад назвай «Прэзідэнт», у якой змяшчаецца інфармацыя пра адзінага кандыдата ад шырокай дэмакратычнай кааліцыі.

Галоўны ўдар быў нанесены ў пятніцу, 10 жніўня, раніцай. Змагары са злачыннасцю нечакана з'явіліся ў офіс грамадскага аб'яднання «Ратуша», кіраўніком якога з'яўляецца яшчэ адзін патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш. Спаслаўшыся на загад намесніка начальніка Аддзела эканамічнай злачыннасці (АЭЗ) УУС Гарадзенскага аблвыканкама Іосіфа Барташэвіча, трое оперупаўнаважаных забралі ў «Ратушы» ўсю аргтэхніку. Як заявіў адзін з іх - Сяргей Буча, - «падставай з'явіліся адпаведныя адносіны Камітэта Дзяржкантролю па Гарадзенскай вобласці».

*«З 30-га ліпеня супрацоўнікі дзяржкантролю сапраўды праводзілі праверку гаспадарча-фінансавай дзейнасці «Ратушы»*, - пацвердзіў найбліжэйшы паплечнік Домаша Аляксандр Мілінкевіч. - *Больш за ўсё іх цікавілі дакументы, якія тычацца тэхнікі. Трэба адзначыць, што ў працэсе праверкі ніякіх заўваг ад супрацоўнікаў дзяржкантролю не паступала, а потым прыйшоў АЭЗ з прадпісаннем аб канфіскацыі тэхнікі да высвятлення абставінаў набыцця».*

Можа здарыцца, што высвятленне гэтых самых «абставінаў» працягнецца ажно да самых выбараў. Справа ў тым, што падчас праверкі загадкавым чынам зніклі дакументы, якія пацвярджаюць атрыманне арганізацыяй камп'ютараў ад аднаго з фондаў. Паводле словаў бухгалтара «Ратушы», *«Зніклыя дакументы неаднойчы чытаў і часткова скапіраваў супрацоўнік дзяржкантролю Сямён Гецман, які праводзіў праверку».*

Паводле меркавання Аляксандра Мілінкевіча, праверка і наступная канфіскацыя аргтэхнікі цесна звязаная з палітычнай дзейнасцю кіраўніка «Ратушы». *«Цяпер не можа абнаўляцца афіцыйны Інтэрнэт-сайт Сямёна Домаша. Знікла важная інфармацыя, якая тычыцца выбарчай кампаніі, а праца самой «Ратушы» аказалася поўнасцю паралізаванай»*, - заявіў Мілінкевіч і дадаў, што гэты інцыдэнт сведчыць пра паніку ўладных структураў, грубы ціск якіх на папулярнага гарадзенскага палітыка толькі дадасць яму прыхільнікаў.

Парадаксальна, але колькасць прыхільнікаў у апазіцыйнага кандыдата можа павялічыцца якраз за кошт міліцыянтаў, сярод якіх нарастае незадаволенасць пануючай уладай. Ступень няўпэўненасці міліцэйскіх начальнікаў у сваіх падначаленых прымушае іх выкарыстоўваць элементарнае запалохванне і шантаж. Як стала вядома, практычна ва ўсіх міліцэйскіх пастарунках праводзяцца індывідуальныя размовы на прадмет лаяльнасці супрацоўнікаў да цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Некаторыя крыніцы ў міліцыі паведамляюць, напрыклад, што супрацоўнікам, якія паставілі свае подпісы ў падпісных лістах апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты пагражаюць аргвывадамі, нават звальненне. Кадравікі пацвярджаюць, што інфармацыя, якая паступіла ў выбарчыя камісіі пра палітычныя погляды міліцыянтаў у выпадку перамогі Лукашэнкі будзе выкарыстаная з мэтай правядзення кадравых чыстак.

Улада прыступіла да палітыкі бізуна. Пернікаў больш няма.

Анджэй Пісальнік, «Дзень»

## Пачаў працу «Школьны кірмаш»

**З 14 жніўня ў Гродне на плошчы Леніна працуе штогадовы «Школьны кірмаш».**

Наведвальнікі кірмашу маюць добрую магчымасць набыць сваім дзецям-школьнікам усе неабходныя рэчы для школы. На кірмашы гандлююць школьнымі пісьмовымі прыналежнасцямі, аддзеннем, метадычнымі падручнікамі ды іншымі рэчамі, неабходнымі для 1-га верасня.

Уся прадукцыя на кірмашы прэзентаваная звыш 30-ю гарадзенскімі дзяржаўнымі і прыватнымі прадпрыемствамі, якія выпрабляюць дзіцячы асартымент.

Школьны кірмаш штодзённа працуе з 10 да 18 гадзін і працягнецца да 31 жніўня.

Захар Штрэна

## Другі месяц - у аб'езд

**Узнаўленне дарожнага руху па вуліцах Каліноўскага і Астроўскага перанеслі з 13 на 25 жніўня.**

Ужо больш за месяц дарожны рух па гэтых вуліцах забаронены. На гэтай тэрыторыі арганізацыя «Гарадзенскія цеплавыя сеткі» праводзіла рамонтныя працы па замене старых жалезных трубаў на новыя. Гэтыя працы павінны былі закончыцца 13 жніўня, але ж гэтага не адбылося.

Як паведаміў ПАГОНІ Мікалай Шынкарык, галоўны інжынер цеплавых сетак: «Наша арганізацыя закончыла сваю працу яшчэ 11 жніўня. Мы праверылі новаўзбудаваныя трубы і пусцілі па іх гарачую ваду. Зараз на гэтых вуліцах засыпаюць пяском ямы і будуць пракладваць асфальт. Гэтыя працы працягнуцца яшчэ каля дзесяці дзён».

Алесь Зарэмбюк

## Усе народы будуць таньчыць 9 верасня

**У дзень прэзідэнцкіх выбараў, дзевятага верасня, у Гродне гарвыканкамам плануецца правядзенне фальклорнага свята «Родная старонка». У межах свята плануецца канцэрт нацыянальных суполак, выстава-продаж вырабаў народных мастакоў. Мерапрыемства будзе праводзіцца з 12 да 18 гадзінаў на пляцоўцы каля канцэртнай залі «Гродна», што па вуліцы Савецкай.**

Нацыянальныя меншасці неадназначна ўспрынялі сумяшчэнне фальклорнага свята і выбараў прэзідэнта краіны. «Гэта савецкая практыка, - гаворыць Альгірдас Дзяргінчус, старшыня літоўскай суполкі «Тэвінэ». - Нас прымушаюць паказваць радасць з нагоды таго, што ўлада дазволіла нам пайсці на выбарчыя ўчасткі». Таксама і лідар суполкі грузінаў Мурат Чхаідзе лічыць, што супадзенне выбараў і фэсту невыпадковае.

Ці будуць таньчыць шчаслівыя народы?

Сяргей Самасей

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Буду змагацца, каб Лукашэнка жыў доўга, але ў клетцы»

**У нашую рэдакцыю Васіль Лявонаў зайшоў хвілінаў за дванцаць да запланаванай гарачай тэлефоннай лініі. Болей упэўненага ў сабе чалавека ПАГОНЯ, напэўна, у сваёй гісторыі яшчэ не ведала. Касец, шахцёр, першы сакратар райкама, першы сакратар абкама, міністр - у жыцці Васіль Лявонаў прайшоў многае. З нядаўняга часу ў Беларусі яго называюць не інакш, як «архітэктар адзінага кандыдата», «шэры кардынал», альбо «некаранаваны лідар беларускай апазіцыі». І хоць Васіль Севасцьянавіч не любіць гэтых, як ён кажа, мянушак, 40 тэлефанаванняў вымушаюць у гэтым пераканацца. На працягу дзвюх гадзінаў Васілю Лявонаву ў ПАГОНІ задавалі пытанні пра ўсё: ад адзінага кандыдата да першага кахання.**

ЧАСЛАВА АНТОНАЎНА:

*- Спадар Лявонаў, за каго Вы агітуеце галасаваць: за другога камуніста? Дзе гарантыі, што ён не здасць Беларусь?*

- Якога камуніста Вы маеце на ўвазе: Домаша ці Ганчарыка? Усе мы былі камуністамі.

*- Ганчарыка! Камуністам мы не верым, мы верым толькі адназму Зянону Пазьняку.*

- Я быў бы не супраць, калі б ён змог прайсці этап збору подпісаў. Я б таксама за яго галасаваў. Я паважаю Зянона Пазьняка. І буду вітаць, калі ён вернецца. Больш таго, я гатовы яшчэ пры жыцці за свае грошы паставіць помнік Зянону Станіслававічу.

БУДАЎНІК, ГРОДНА:

*- Чаму адзіным кандыдатам вылучылі не Сямёна Домаша, а Уладзіміра Ганчарыка? Прэса піша, што Вы адыгралі ў гэтым вялікую ролю...*

- Вылучэнне Ганчарыка - гэта рашэнне «пяцёркі». У тым ліку і Сямён Домаш падпісаў гэтае рашэнне. Там нікто, акрамя іх, не прысутнічаў і ім не перашкаджаў. А плётка пра маю «вялікую ролю» выгадная кагэбэшнікам. «Пяцёрка» прыняла гэтае рашэнне сама, і мы вымушаныя ёй падпарадкоўвацца.

*- Уладзімір Ганчарык яшчэ не выказаўся канкрэтна адносна вяртання бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні».*

- Я Вас магу запэўніць: усё, што служыць на карысць Беларусі, будзе выканане Ганчарыкам. Таксама, як і Сямёнам Домашам.

*- Чаму ж Вы спынілі свой выбар на Ганчарыку?*

- Яшчэ раз паўтараю, я не выбіраў. Выбірала «пяцёрка».

*- Час яшчэ ёсць, не позна і змяніць адзінага.*

- Не, у такім выпадку гульня будзе толькі на здраду. Мы павінны выконваць тое, пра што дамовіліся.

ВІКТАР, МАГІЛЁЎ:

*- Былы рэдактар расейскай «Независимой газеты» Уладзімір Трацякоў сказаў аднойчы пра Лукашэнку так: «Гэта сукін сын, але гэта наш сукін сын». Ці не падаецца Вам, што Вы таксама прыклалі руку да з'яўлення гэтага «сукінага сына», калі былі кіраўніком Магілёўскага абкама кампартыі?*

- Не. Больш таго, калі Лукашэнка вёў барацьбу за пост дэпутата Вярхоўнага Савета СССР апошняга склікання, ён прайграў толькі з-за мяне. А калі ён змагаўся за пасаду прэзідэнта, я ў гэтым удзелу не браў. І магу Вам прывесці любыя сведчанні. Калі мяне ўжо паставілі міністрам, я даў інтэрв'ю, дзе падкрэсліў, што я ў барацьбе за ўладу Лукашэнкі не ўдзельнічаў. І на рэферэндуме ўдзелу не браў. Але за тое тры гады «прыняў удзел» у турме.

УЛАДЗІМІР РЫГОРАВІЧ:

*- Усе ўпэўненыя, што Лукашэнка выбары сфальсіфікуе. На Вашую думку, ці можна арганізаваць на Беларусі пасля выбараў Вызвольны Рух, які вызваліць краіну ад яго?*

- Я ведаю па чутках, што розныя сілы гэта задумваюць, але лічу такое развіццё падзеяў няправільным. Я ўпэўнены, што Лукашэнка будзе адхілены ад улады, нават калі ён і сфальсіфікуе выбары, звычайнымі метадамі, без вайны і крыві. У самым горшым выпадку гэта адбудзецца ў пачатку наступнага году. Я - супраць таго, каб мы ваявалі.

АЛЕНА РАМАНАЎНА:

*- Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю. Дзе вучацца і працуюць дзеці? Ці падтрымлівае жонка Ваш рух "За новую Беларусь"?*

- Я не пайшоў бы на гэты рух, калі б не меў падтрымкі ад жонкі, перш за ўсё, а таксама ад сваіх дачок, зяцёў, унукаў. Яны ўсе мяне падтрымліваюць і, больш таго, усе працуюць на гэты рух. Адныя грошы даюць, другія проста працуюць.

АЛЕСЯ, 17 ГАДОЎ:

*- Ці не маглі б Вы расказаць пра сваё першае каханне?*

- Маёй унучцы таксама 17 гадоў. Маё першае каханне - гэта мая жонка. Такая вось не зусім масавая з'ява. Мы пазнаёміліся з маёю жонкай у 1953 годзе, а ажаніліся мы ў 1963 годзе. Лічыце, колькі гадоў разам жывем. Думаю, мне пашчасціла.

ГЕНАДЗЬ, ЭКАНАМІСТ:

*- На якой падставе адзінага кандыдата выбіралі людзі, якія не сабралі 100 тысяч подпісаў? Як сярод дэмакратычных кандыдатаў апынуўся камуніст Калякін?*

- «Пяцёрка» абрала адзінага кандыдата яшчэ да таго, як Цэнтрвыбаркам пачаў правяраць і бракаваць подпісы. Таму на момант прыняцця рашэння кандыдаты не ведалі, што зробіць ЦВК з подпісамі. Што тычыцца Калякіна, дык я ведаю яго як чалавека сумленнага. Што ж зробіш, адныя аднаго погляду, іншыя другога, але Калякін - чалавек сумленны.

ПЕНСІЯНЕРКА З ГРОДНА:

*- Чаму Ваш рух "За новую Беларусь" незарэгістраваны?*

- Наш устаноўчы сход будзе адбывацца 18 жніўня. Мы не сталі хадзіць па кватэрах за подпісамі, каб не перашкаджаць ініцыятыўным групам кандыдатаў. Пасля 18-га будзем весці вайну за рэгістрацыю.

*- Чаму адзіным кандыдатам абраны не Домаш? Наколькі вядома, супраць Ганчарыка многія пратэстуюць: і моладзь, і ветэраны. Ці нельга змяніць рашэнне «пяцёркі»?*

- Гэтае пытанне да «пяцёркі», не да мяне. Калі мы, дэмакраты, зноў будзем біцца кожны за свайго кандыдата, то ўсё правалім, як правалілі ў 1994 годзе.

*- У многіх настрой: галасаваць супраць усіх.*

- Гэта няправільна. Супраць усіх - гэта значыць, за Лукашэнку.

СЯРГЕЙ, 40 ГАДОЎ:

*- Якія сілы мы зможам змабілізаваць для перамогі на выбарах?*

- Усе свядомыя людзі - вось наша сіла. Гэта тыя, хто не хоча быць быдлам, якое робіць Лука з нашых людзей. А канкрэтна, гэта ўсе партыі, акрамя ЛДПБ Гайдукевіча, і штабы ўсіх кандыдатаў. Гайдукевіч - гэта падстава Лукі.

ІРЫНА МІКАЛАЕЎНА:

*- Ці не станецца так, што Ганчарык будзе праводзіць палітыку Кебіча і Лукі па далейшым аб'яднанні з Расеяй, па ўвядзенні рублёвай зоны?*

- Я ўпэўнены: гэтага не адбудзецца. Ганчарык - гэта не Кебіч. Я добра ведаю і таго, і другога, таму магу параўноўваць.

*- Ці ёсць нейкая праграма па вывадзе Беларусі з крызісу, па развіцці сельскай гаспадаркі, эканомікі. Ці - галоўнае прыйсці да ўлады, а там разбярэмся?*

- Праграма ёсць. Праграма беларуская, яна адпрацаваная і навукоўцамі, і практыкамі. Больш таго, ёсць людзі для выканання гэтай праграмы.

*- А дзе можна з ёй пазнаёміцца?*

- Тэзісы Ганчарыка будуць апублікаваныя ў прэсе. А грунтоўную праграму не атрымаецца апублікаваць. Яна займае каля 700 старонак. Як толькі адбудзецца рэгістрацыя, тэзісы будуць надрукаваныя.

*- Ці веруючы Вы чалавек?*

- Так, я праваслаўны. Апошні раз я хадзіў у царкву два тыдні таму ў Маскве.

АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ:

*- У мяне няма пытанняў. Я хачу Вам падзякаваць за тое, што Вы ёсць, за тое, што робіце такую вялікую справу, і хачу пажадаць, каб мы ўсе перамаглі.*

ЖАНЧЫНА СЯРЭДНЯГА ВЕКУ, НЕ ПРАДСТАВІЛАСЯ:

*- Васіль Севасцьянавіч, вядома, што Вы былі рэпрэсаваны і адседзелі тэрмін. У калоніі Вы, напэўна, сутыкнуліся з тым фактам, што туды трапляе вельмі шмат маладых людзей. Ці плануе адзіны кандыдат рэформу адукацыі, пачатковай, сярэдняй, вышэйшай, каб спыніць рост падлеткавай злачыннасці?*

- Вы гаворыце аб будучыні Беларусі. Калі ўсё будзе развівацца так, як цяпер, у Беларусі не будзе будучыні. Рэформа адукацыі запланаваная, больш таго, трэба рэфармаваць і турмы. Шмат моладзі трапляе за краты за нязначныя парушэнні. За разавую памылку сістэма робіць з чалавека на ўсё жыццё злачынцам і ворагам грамадства.

*- Але для падлеткаў цяпер прэстыжна патрапіць у турму.*

- Ведаеце, гэта гаворыць той, хто не бачыў падлеткаў у турме. А я іх бачыў. Адзінкі задаволеныя тым, што туды патрапілі.

АНДЖЭЙ ПІСАЛЬНІК:

*- Калі Вы сядзелі ў турме, якая была верагоднасць таго, што з Вамі могуць расправіцца?*

- Мне пашчасціла. Начальнікі турмы не ставілі такой задачы. Каб захацелі - у нас усё вельмі проста робіцца. Там гэта нічога не каштуе. Мяне папярэдзіў былы начальнік турмы на Валадарцы, небезвядомы Алег Алкаеў. Ён не дазволіў самавольства нада мною. Гэта сапраўдны афіцэр. Урэшце рэшт ён пайшоў ад гэтай улады, груба кажучы, збег ад пераследу Лукашэнкі. Сярод турэмшчыкаў таксама ёсць людзі.

*- Як у Вас складаліся адносіны з аўтарытэтамі ў турме? Вам, відавочна, прыйшлося адстойваць месца пад тамтэйшым сонцам?*

- Я не так часта з гэтай шалёнай камандай сутыкаўся, таксама дзякуючы афіцэрам. Больш таго, як толькі пасадзілі, мяне адразу паклікалі і сказалі: «Можаш сядзець спакойна: цябе тут ніхто не кране». Гэта сказаў падпалкоўнік, ён разумеў, што да чаго.

АНДРЭЙ, З ГРОДНА:

*- Вы - за інтэграцыю з Расеяй?*

- Я - за сяброўства з Расеяй і самастойнасць Беларусі. За сяброўства з усімі суседзямі, але за нашую незалежнасць.

АЛЯКСАНДР ІВАНАВІЧ:

*- Як Вы ставіцеся да беларускай мовы, і які лёс, на Вашую думку, яе чакае ў будучым?*

- Скажу Вам адзінае: усе мае ўнукі добра ведаюць беларускую мову, нароўні з ангельскай.

ТАДЭВУШ ГАВІН, ГРОДНА:

*- Я не разумею, як Вы, чалавек, які павінен у жыцці ўсё пралічыць, раптам паставілі на Ганчарыка? На Заходняй Беларусі Ганчарык непраходны, ён не зможа нават выйсці ў другі тур.*

- Вы памыляецеся, я паставіў на «пяцёрку». Для нас не было значэння, хто з іх будзе адзіным. Больш таго, я на іх пасяджэнні не заходзіў. Я вельмі паважаю Гарадзеншчыну, найбольш за ўсе вобласці. На жаль, у выпадку з Ганчарыкам тут сапраўды можа здарыцца тое, што Вы гаворыце. Але я не магу нічога перарабіць. Гэта было палітычнае рашэнне «пяцёркі», якое падпісаў і Домаш.

МУЖЧЫНА, НЕ ПРАДСТАВІЎСЯ:

*- Спадар Васіль, Вы ж даўно ведаеце Лукашэнку?*

- Так, з 1980 года.

*- Як Вы ацэньваеце адэкватнасць ягонага мыслення? Ён наогул нармальны чалавек?*

- Калі ён быў маладым, гэтага не было відаць. А цяпер бачна, што ён хворы на галаву. Ногі ў яго здаровыя, а галава - хворая.

*- У такім выпадку, як мы можам такога чалавека, наогул, выстаўляць на выбары?*

- Таму наш рух і заклікае, каб усе кандыдаты ў прэзідэнты прайшлі агляд у псіхіятра. Каб яны пацвердзілі стан свайго псіхічнага здароўя.

*- І Вы мяркуеце, што Лукашэнка пагодзіцца?*

- Я ведаю, што ён ні на што не пагодзіцца, бо ведае, што хворы. Гэта я ведаю, што ён ведае. Таму ён не пойдзе. Але гэта дасць магчымасць зарыентавацца тым, хто пойдзе галасаваць, і тым, на каго ён разлічвае, калі будзе фальсіфікаваць вынікі галасавання.

ВАЛЯНЦІНА, ЭКАНАМІСТ:

*- Якое Вашае стаўленне да праграмаў «Рэзананс» і «Разговор по существу»?*

- Маё стаўленне да аўтараў гэтых праграмаў не толькі, як да вялікіх ілгуноў, а як да злачынцаў. Гэта не проста халуі, якія гнуцца, а халуі, якія самі робяць злачынства. Аднак вынік у іх атрымоўваецца з-дакладнасцю наадварот. Яны разлічваюць, што большасць беларусаў дурні, а ў нас большасць разумная. Нішто так не збівае рэйтынг Лукашэнкі, як «рэзанатары». Яны загартоўваюць у народзе агіду да Лукашэнкі.

АЛЕСЬ ЛОБАН, ГРОДНА:

*- У выпадку перамогі Ганчарыка кім Вы бачыце сябе ва ўладнай іерархіі? Ходзяць чуткі пра вашае прэм'ерства...*

- Нікім. Ні ў якую ўладу я не пайду. Я пра гэта заявіў, сказаў і напісаў. Кагэбэшнікі Вам шмат чаго нагавораць. Прэм'ерства мне не патрэбнае.

МІХАСЬ РАМАНОЎСКІ, ЛІДА:

*- Вы - за калгасную сістэму?*

- Я быў калгаснікам, вырас у калгасе - і люта ненавіджу з тых гадоў калгасы. Калгас - гэта прыгон, замешаны на трацкісцкіх працоўных арміях. Гэта дзікі гібрыд, гэта горш за прыгон. У калгасе могуць забраць усё заробленае і паставіць, прабачце, палку. Калі я быў міністрам, я насуперак Лукашэнку 300 калгасаў рэфармаваў. За гэта і пасядзеў крыху.

ГАЛІНА ПУСТАВОЙТ, ГРОДНА:

*- Нядаўна ў «Народнай Волі» Вас назвалі «некаранаваным лідарам беларускай апазіцыі». Якую частку апазіцыі Вы прэзентуеце, бо Вашае імя часта стала гучаць літаральна толькі апошнія паўгады?*

- Называць мяне так - справа «Народнай Волі». Я Сярэдзіча (галоўны рэдактар НВ - заўв. П.М.) папрасіў, каб больш такія мянушкі ён мне не даваў. Прэтэнзіяў на ўсеагульную ўладу я ніколі не выказваў.

ЯНІНА, НАСТАЎНІЦА:

*- На Вашую думку, што будзе 10 верасня? Бо ў большасці людзей няма сумневу ў тым, што выбары будуць сфальсіфікаваныя.*

- Я сумняваюся, што выбары будуць сфальсіфікаваныя. Я не лічу, што адбудзецца агульнанацыянальная здрада. Упэўнены, што большасць сяброў камісіяў у нас нармальныя людзі і не пойдуць на здраду, на крымінальныя ўчынкі. А калі так усё ж адбудзецца, разбірацца будзем дзесятага.

ПЕНСІЯНЕРКА ЖУКАВА:

*- Сумняваюся, што нашыя галасы будуць сумленна падлічаныя.*

- Цяпер гэта асноўная задача беларусаў: не дапусціць усеагульнай хлусні. Падтасоўка вынікаў - гэта крымінальнае злачынства. І, незалежна ад таго, што гаворыць начальнік, кожны, хто здзейсніць гэтае злачынства, будзе пасля сядзець у турме. Прычым гэтае злачынства не будзе мець тэрміну даўніны. Мы давядзем да ўсіх сяброў выбарчых камісіяў і адпаведны артыкул кодэкса, ягоны змест. Яны будуць ведаць, чым рызыкуюць.

ЖАНЧЫНА, НЕ ПРАДСТАВІЛАСЯ:

*- Электарат Лукашэнкі за кандыдата ў прэзідэнты Ганчарыка не прагаласуе.*

- Колькі Вы лічыце ў Гродне такіх людзей, якія цвёрда прагаласуюць за Лукашэнку? Калі не верыць усім гэтым сацыялагічным даследванням.

*- Справа ў тым, што народ усё роўна будзе галасаваць за Лукашэнку. Нават маладыя. Асноўная прычына такая: іншы прэзідэнт лепшым не будзе. І гэты народ нічым не здзівіш. Калі скажаце, што прэзідэнт крадзе грошы, яны скажуць: ён крадзе для народа. Скажаце, што ён кагосьці забівае, яны скажуць: так трэба для краіны. Пасля гэтай масіраванай атакі з тэлебачання, такіх людзей стала значна больш. Нават мая маці, якая ставілася да яго абыякава, стала казаць, што ён добры...*

- Добры, нават нягледзячы, што ён забойца?

*- А гэта яе наогул не хвалюе.*

- У такім выпадку мы вартыя таго, што маем. Мы вартыя жыць у турме. Усе.

*- Так нельга казаць.*

- Ну як. Мы ж выбіраем пахана.

*- Мы выбіраем прэзідэнта!*

- Мы ведаем, што ён забойца, і ўсё роўна выбіраем. У такім выпадку, мы яго вартыя.

*- А, мы не ведаем, хто такі Ганчарык. Гэта партнаменклатуршчык, які ўваходзіў у ЦК КПСС, ён быў членам Палітбюро ЦК КПСС.*

- Вось гэта вы прыдумалі.

*- Беларускага ЦК!*

- І гэта Вы прыдумалі. А, можа, мы вернемся да іншага. Выбу такі наменклатуршчык Машэраў. Хтонебудзь мог прадугледзець такую ахову, такую раскошу, беспардонныя паводзіны, вялікія выдаткі, як цяпер у Лукашэнкі?

*- Мы не ведаем, як тады было. У той час гэтага не паказвалі.*

- У такім выпадку, вы ўжо настроіліся галасаваць за Лукашэнку. У Машэрава быў адзін целаахоўнік. А цяпер ведаеце, колькі чалавек ахоўвае Лукашэнку? Дзве тысячы!

ВІКТАР ЗАРЭМБЮК, МАСТЫ:

*- Чым будзеце займацца ў выпадку перамогі Лукашэнкі?*

- Буду змагацца з Лукашэнкам да канца маіх дзён, альбо ягоных, на волі. Буду змагацца, каб ён жыў доўга, але ў клетцы.

**Падрыхтаваў Павал Мажэйка**



Васіль Лявонаў

# Міліцыянты давялі дзяцей да шоку

**8 жніўня ў Ваўкавыску супрацоўнікі мясцовай міліцыі незаконна затрымалі васемнаццацігадовага Віталя Гуляку і семнаццацігадовага Максіма Жмурына. У пастарунку, куды даставілі хлопцаў, Віталя і Максіма давялі да псіхалагічнага шоку.**

Хлопцы ішлі ўвечары па сваім горадзе. У руках кожнага было па некалькі дзесяткаў паасобнікаў спецвыпуску газеты «Рабочы». Менавіта гэтае (афіцыйна зарэгістраванае!) выданне Незалежнага прафсаюзу беларускага і прыцягнула ўвагу ахоўнікаў правапарадку.

Хлопцаў затрымалі, даставілі ў мясцовы РАУС, дзе адабралі газеты і асабістыя рэчы. На просьбу патэлефанаваць юрысту Віталь атрымаў катэгарычную адмову. Затым нейкі малады лейтэнант, які не пажадаў прадставіцца, завёў Максіма і Віталя ў цёмны пакой, дзе дзве гадзіны запужваў хлопцаў, называў іх псіхічна хворымі і пагражаў змясціць іх у псіхіятрычную клініку «Баяры».

- Напрыканцы «гутаркі» міліцыянт паабяцаў, што ў нас будуць праблемы, і што намі зоймецца КГБ, - распавядае Максім.

Гуляку і Жмурына адпусцілі толькі тады, калі за непаўнагадовым Максімам прыехаў бацька. На гэты момант хлопцы ўжо былі ў стане псіхічнага растройства.

- Ніводзін артыкул Закону «Аб міліцыі» не апраўдвае гэтае затрыманне, - пракаментаваў Уладзімір Соўца, праваабаронца гарадзенскай філіі Беларускага Хельсінскага Камітэту. - Хлопцы проста ішлі па вуліцы. Міліцыянты звярнулі ўвагу на газету «Рабочы», якая была прысвечаная выбарам. Відаць, існуе сакрэтны загад: затрымліваць усіх, хто мае дачыненне да прэзідэнтскай кампаніі.

**Юлія Дарашкевіч**

РЭЙТЫНГ

# Галасуйце па тэлефоне!

**На старонках ПАГОНІ вы можаце галасаваць ужо сёння!**

Вы можаце аддаць свой голас кандыдату, за якога прагаласуеце на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах. Вызначце таксама аднаго кандыдата, за якога не будзеце галасаваць ні ў якім выпадку.

Галасуйце па тэлефоне 72-37-14 з 10.00 да 18.00 штодзень, акрамя выхадных.

Шэры слупок - галасы «ЗА», белы слупок - «СУПРАЦЬ».




Сяргей Гайдукевіч — 1,7% / 12,1%




Уладзімір Ганчарык — 7,4% / 4,1%




Сямён Домаш — 48% / 4,2%




Аляксандр Лукашэнка — 11,2% / 69,6 %

Выкарыстаныя фота IREX/ProMedia

# Засталося перамагчы!

**13 жніўня ў Менску ў святочнай атмасферы падпісанае Пагадненне паміж шырокай грамадзянскай кааліцыяй і адзіным кандыдатам ад дэмакратычнай грамадскасці Беларусі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах Уладзімірам Ганчарыкам. Свой намер дзейнічаць разам дзеля агульнай мэты пацвердзілі прэтэндэнты на прэзідэнцкі пост Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш, іх падтрымалі Сяргей Калякін, Павал Казлоўскі, Міхаіл Марыніч, Міхаіл Чыгір і Аляксандр Ярашук. Ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Пагадненне падпісалі лідары вядучых палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў.**

**Прыняцце гэтага дакумента - вызначальны момант у сучаснай гісторыі Беларусі. Шлях да яго быў няпросты. Аднак хуткія рашэнні, што не падлягаюць абмеркаванню і пярэчанням, прымаюцца толькі падчас дыктатуры - ім гарантаваныя і прыдворнае ўсеагульнае адабрэнне, і бясконцыя апладысменты. Тым болей каштоўнае пагадненне, дасягнутае пасля працяглага перабору варыянтаў і няпростых узаемных кампрамісаў.**

**Пад Пагадненнем стаяць подпісы розных людзей, якія прэзентуюць розныя сілы. Аднак яны адзіныя ў асэнсаванні таго, што цяперашні рэжым згубны для Беларусі. Ён вядзе краіну ў тупік, падрывае яе аўтарытэт на міжнароднай арэне, пагражае нашай дзяржаўнасці і, у канчатковым выніку, - будучыні нашых дзяцей і ўнукаў.**

**Гэта не пачатак барацьбы за новую Беларусь - барацьба пачалася даўно. Гэта якасна новы яе этап. Зараз перад выхадам на фінішную прамую, сабраныя сілы, намечаны план дзеяння. А значыць - зроблены яшчэ адзін крок да перамогі.**



Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш (злева направа)

## Пагадненне пра ўзаемныя абавязкі адзінага кандыдата і шырокай грамадзянскай кааліцыі ў перыяд і пасля выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Шырокая грамадзянская кааліцыя ў асобе паўнамоцных прадстаўнікоў палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў, з аднаго боку, і прэтэндэнты ў кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь: адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Іванавіч Ганчарык і Сямён Мікалаевіч Домаш, з другога, зыходзячы з адказнасці за лёс Рэспублікі Беларусь і неабходнасці вяртання Рэспублікі Беларусь на шлях дэмакратычнага развіцця, заключылі дадзенае пагадненне пра наступнае:

1. У.Ганчарык, С.Домаш, С.Калякін, П.Казлоўскі, М.Марыніч, М.Чыгір і А.Ярашук завяршаюць аб'яднанне сваіх выбарчых штабоў і структураў у выбарчы штаб адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі. Аб'яднаны выбарчы штаб ажыццяўляе ўсю неабходную дзейнасць для рэгістрацыі У.Ганчарыка і С.Домаша ў якасці кандыдатаў на пост Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

2. Пасля рэгістрацыі У.І.Ганчарыка кандыдатам на пост Прэзідэнта, С.М.Домаш здымае сваю кандыдатуру на карысць У.І.Ганчарыка, у адпаведнасці з дасягнутымі раней дамоўленасцямі.

3. Пасля рэгістрацыі У.І.Ганчарыка кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь С.М.Домаш становіцца кіраўніком Палітычнага Савету штаба адзінага кандыдата.

4. У выпадку рэгістрацыі толькі аднаго з прэтэндэнтаў у кандыдаты, усе ўдзельнікі гэтага пагаднення аказваюць яму ўсю магчымую падтрымку як адзінаму кандыдату ад шырокай грамадзянскай кааліцыі.

5. У выпадку стварэння кіруючым рэжымам перашкодаў для рэгістрацыі У.І.Ганчарыка кандыдатам па пост Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, аб'яднаны штаб і абодва прэтэндэнты ў кандыдаты дзейнічаюць узгоднена, прымаюць усе законныя захады для забеспячэння рэгістрацыі, нават да звяртання ў міжнародныя арганізацыі і правядзення масавых акцыяў пратэсту.

6. Адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі прымае на сябе абавязацельствы, у выпадку абрання на пост прэзідэнта, сумесна з іншым прэтэндэнтам у кандыдаты, які падаў у Цэнтрвыбаркам неабходную для рэгістрацыі колькасць подпісаў, сфармаваць урад на чале з ім, а таксама ў мінімальныя тэрміны перадаць частку прэзідэнцкіх паўнамоцтваў (у межах агульнага працэсу размежавання ўладных паўнамоцтваў) ураду.

7. Адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі, у выпадку перамогі на прэзідэнцкіх выбарах, абавязуецца правесці дэмакратычныя парламенцкія выбары і даць на зацвярджэнне нанава выбранаму парламенту тую ж кандыдатуру на пасаду прэм'ер-міністра.

8. У галіне дзяржаўнага будаўніцтва адзіны кандыдат абавязуецца:

- Гарантаваць узнаўленне дэмакратычнай сістэмы ўлады ў краіне, заснаванай на прынцыпах размежавання ўладаў, вяршэнства закону і парламентарызму, абмежаванне паўнамоцтваў прэзідэнта, узнаўленне функцыяў парламенту, пашырэнне паўнамоцтваў ураду і органаў мясцовага самакіравання, незалежнасць судовай улады і свабоду СМІ, у тым ліку стварэнне грамадскага тэлевізійнага канала.

- Забяспечыць выбранне парламенту і мясцовых прадстаўнікоў органаў улады паводле змешанай прапарцыянальна-мажарытарнай сістэмы і зацвярджэнне ўраду парламентам; гарантаваць узнаўленне поўнага кантролю парламенту і органаў мясцовага самакіравання за бюджэтамі ды іншымі дзяржаўнымі фондамі.

- Забяспечыць унясенне зменаў у выбарчае заканадаўства, якое б гарантавала фармаванне выбарчых камісіяў з удзелам палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў, неўмяшальніцтва органаў улады ў іхнюю дзейнасць.

- Узяць курс на забеспячэнне дынамічнага развіцця эканомікі, уздым жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

- Гарантаваць безумоўнае выкананне канстытуцыйных палажэнняў аб суверэнітэце, незалежнасці і памкненне да нейтралітэту. Ажыццяўляць эфектыўную шматвектарную знешнепалітычную дзейнасць, асноўным прынцыпам якой з'яўляецца ўмацаванне цесных узаемавыгадных партнерскіх адносінаў з Расеяй, Украінай ды іншымі краінамі. Забяспечыць інтэграцыю Беларусі ў агульнаеўрапейскую палітычную, эканамічную, гуманітарную прастору. Стварыць станоўчыя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры, мовы, традыцыяў і прымянення нацыянальнай гістарычнай сімволікі беларускага народу.

9. Лідары палітычных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў, грамадскія і палітычныя дзеячы, якія падпісалі гэтае Пагадненне, абавязуюцца змабілізаваць увесь рэсурс, што знаходзіцца ў іхнім распараджэнні, для аказання ўсялякай падтрымкі адзінаму кандыдату з мэтай перамогі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах і правядзення неабходных палітычных і эканамічных пераўтварэнняў пасля перамогі на выбарах.

Дадзенае Пагадненне з'яўляецца адкрытым для далучэння іншых палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў.

**Адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі У.Ганчарык.**

**Прэтэндэнт у кандыдаты ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь С.Домаш.**

С.Калякін, П.Казлоўскі, М.Чыгір, М.Марыніч, А.Ярашук.

**Ад палітычных партыяў Пагадненне падпісалі:** В.Вячорка, А.Лябедзька, С.Шушкевіч, Н.Статкевіч, В.Палевікова, А.Бухвостаў, О.Грамыка, М.Фрыдлянд.

**Ад грамадскіх рухаў і арганізацыяў** - В.Лявонаў («За новую Беларусь»), А.Мілінкевіч («Рэгіянальная Беларусь»), А.Саннікаў («Хартыя-97»).




# Рэха путчу

**19 жніўня - гэта дзесятая гадавіна няўдалага дзяржаўнага перавароту, мэтай якога было задушыць дзяржаўную незалежнасць былых савецкіх рэспублікаў, вярнуць іх ва ўлонне камуністычнай імперыі. У Гродне ў тыя дні было ціха. Аднак...**

**Сёння ПАГОНЯ звярнулася да гарадзенцаў з пытаннямі: што Вы адчувалі падчас путчу? Што Вы рабілі ў першыя хвіліны, калі даведаліся пра ГКЧП?**

**Мікалай, 62 гады, пенсіянер:**

- Мне было ўсё роўна, што там адбывалася. Ніякіх дзеянняў я не прадпрымаў.

**Міхась Губернатараў, 55 гадоў, кандыдат філалагічных навук, паэт, дацэнт:**

- Я ведаў, што рыхтуецца дзяржаўны пераварот яшчэ ў ліпені і я ведаў таксама, што ён будзе няўдалым...

**Віктар, 31 год, інжынер кінатэатру «Кастрычнік»:**

- У той дзень я ехаў у цягніку ў Піцер. У Літве ўбачыў бранетранспарцёры, але ж ніякай інфармацыі аб гэтым не было. Па прыездзе ў Пецярбург, далучыўся да дэманстрантаў.

**Валянцін Жук, 60 гадоў, пенсіянер:**

- Я быў занепакоены і вельмі моцна хваляваўся, каб не вярнуліся назад чорныя камуністычныя часы, часы дыктатуры. Аднак, я веру, што маладыя парасткі дэмакратыі пераможуць.

**Алег Калеснік, 29 гадоў, працуе на «Хімвалакне»:**

- На той час я думаў, што Гродна гэта не тычыцца. Я думаю, што калі гэта дойдзе сюды, то як-небудзь разбярэмся.

**Ала Міхайлава, пенсіянерка:**

- Мы ведалі, што савецкая ўлада стаіць моцна. І тут здарыўся путч. Як з неба зваліўся.

**Ніна Іванова, 55 гадоў, доктар:**

- У той час не прапускала ніводнага выпуску навінаў, сядзела ў хаце і разам са сваякамі вельмі моцна перажывала, каб толькі не распачалася вайна.

**Сяргей, 44 гады, электрык:**

- Я нічога не баяўся, бо гэта былі ўжо не 60-70-я гады. Гэта быў 91 год, народ ужо большменш падышоў да дэмакратычных каштоўнасцяў.

**Апытваў Алесь Зарэмбюк**

ДАТЫ

# «З беларускай учэпістай гліны...»



У суботу 11 жніўня ў Зэльве адбыліся ўрачыстасці з нагоды 91-й гадавіны з дня народзінаў Ларысы Геніюш. Сваім ходам, на ўласным транспарце альбо маршрутнымі аўтобусамі ўшанаваць памяць паэткі прыехалі гарадзенцы, менчукі, слонімцы, свіслачцы, берасцейцы, лідчукі. З далёкай Аўстраліі прыляцеў Міхась Ляўдар, зямляк Ларысы Геніюш.

Нягледзячы на шматлікія цяжкасці, якія чамусьці заўсёды паўстаюць падчас ушанавання памяці выбітных беларусаў, зэльвенцы зрабілі ўсё, каб імя Геніюш у Зэльве прагучала годна. Юры Качук, які разам з сябрамі ўсклаў на сябе абавязкі арганізатара імпрэзы, сказаў, што над Геніюш злітавалася нават надвор'е. Напярэдадні ішоў моцны дождж, і мерапрыемствы былі на мяжы зрыву. Аднак адзінаццатага, у дзень святкавання, надвор'е настроілася на паэтычны лад: на небе не было ані хмаркі.

Пасля малебену ў Свята-Траецкай царкве, які справіў айцец Аляксандр, «геніюшаўцы» ўсклалі да магілы паэткі і яе мужа Янкі Геніюша кветкі і велізарны, стылізаваны бел-чырвона-белы вянок. У мінулым годзе, дарэчы, у Свята-Траецкай царкве ў гонар Ларысы Геніюш была ўсталявана мемарыяльная дошка з радкамі паэткі: «На зямлі Беларускай мае алтары...». Гэта першы выпадак у гісторыі праваслаўнай царквы Беларусі, калі дошка ў храме была ўсталяваная ў гонар свецкай жанчыны.

Зэльвенскія ўлады сёлета не дазволілі правесці паэтычную вечарыну ў мясцовым Доме культуры, як было зазвычай. Таму адразу з могілак удзельнікі мерапрыемства накіраваліся на бераг Зэльвенскага вадасховішча, дзе на тэрыторыі турыстычнай базы была збудаваная імправізаваная сцэна.

Ведучы імпрэзу, мастацтвазнаўца Антаніна Хатэнка вельмі хораша гаварыла пра святло, што засталося ў душах людзей па Ларысе Геніюш. Гэта святло мужнага чалавека, які адолеў усе перашкоды, усе парогі і застаўся сам сабою. Што да вершаў слыннае паэткі, дык гэта і падказка нам, і парада, і запавет. На такіх людзях, як Ларыса Геніюш, трымаецца беларуская зямля. Некалі Ларыса Геніюш праклала мост са Жлобаўцаў, невялікае беларускае вёскі, аж но да Прагі, дзе мала хто ў той час ведаў пра беларусаў. З песнямі і вершамі да паэткі звярнуліся Андрэй Мельнікаў, Наталля Матыліцкая і Мікола Трус, Данута Бічэль і Міхась Скобла. **Анатоль Сідарэвіч**, гісторык і палітык, у сваім выступе адзначыў, на чым трымалася жыццядайная сіла гэтай жанчыны:

*- Калі Міхась Чарняўскі рыхтаваў яе «Споведзь» да друку і калі я зірнуў праз ягонае плячо, я зразумеў, у чым была справа. Вера! Не толькі ў Беларусь. Вера ў Бога. І калі чалавек верыць у Бога, мае гэтае гарчычнае зерне веры, як сказана ў Евангеліі, ён непераможны! І ў мяне ўжо была формула да гэтых успамінаў. Плачуць - ах, незалежнасць, ах, дзяржаўнасць. А я заўсёды спакойна сабе кажу: народ, у якога ёсць Купала, не зьнікне. Але пасля гэтага я сказаў: народ, у якога ёсць Купала, Геніюш, Арсеннева, не зьнікне. І гэта маё перакананне да канца маіх дзён.*

**Павал Мажэйка**

**На здымку: вянок у гонар Ларысы Геніюш**

## Грамада запрашае на Свіцязь

**У суботу 11 жніўня на возеры Свіцязь, што ля Навагрудку, распачаў працу экалагічна-адукацыйны летнік, зарганізаваны моладзевым грамадскім аб'яднаннем «Маладая Грамада».**

- Палатачны летнік разбілі непадалёк ад возера, - ***распавядае Валянцін Аскірка, лідар «Маладой Грамады».*** - Штодзень хлопцы і дзяўчаты прыбіраюць ад смецця бераг Свіцязі, а таксама ўдзельнічаюць у навучальных семінарах.

На гэтым тыдні ўжо адбыліся трэнінгі па «Public Relations» (сувязі з грамадскасцю), наступным будзе семінар па грамадзянскай актыўнасці.

Плануецца, што летнік будзе працаваць яшчэ як мінімум тыдзень, да 22 жніўня. Усе ахвотныя далучыцца могуць прыязджаць у любы дзень. Праезд ад Навагрудку - прыгарадным аўтобусам да прыпынку «Свіцязь», далей - пешшу да возера. Пры сабе неабходна мець спальнік. Намётамі, кашай ды іншай рамантыкай удзельнікаў забяспечвае арганізацыя «Маладая Грамада».

**Юлія Дарашкевіч**

## Другое жыцьцё крыжу-памяці

**4 жніўня сорак сяброў патрыятычнай арганізацыі «Край» усталявалі ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёну пяціметровы жалезны крыж. Акцыя была прымеркаваная да 168-й гадавіны сьмерці вядомага паўстанца Міхася Валовіча. Наступнай ноччу ўлады вырвалі крыж зь зямлі й кінулі. Але мясцовыя жыхары, не пабаяўшыся рэпрэсіяў, паставілі яго на наступны дзень, 5 жніўня.**

Гэта ўжо другое аднаўленьне крыжу-памяці. Першы раз крыж у гонар Міхала Валовіча арганізацыя «Край» усталявала каля напаўразбуранай парэцкай царквы 4 лістапада 2000 года. Але праз месяц, 8 сьнежня таго ж году ён быў зьнесены мясцовымі ўладамі па ініцыятыве праваслаўнага папа Ўладзіміра Бобчыка, настаяцеля Альбярцінскай царквы, «благочинного» Слонімскага раёну, пра сувязі якога з КГБ паведамляла мясцовая «Газета Слонимская». Бобчык нацкоўваў вяскоўцаў зьнішчыць праваслаўны Ефрасіньнеўскі крыж, асьвечаны сьвятаром. Людзям паабяцалі аднавіць разрабаваную і разбураную савецкай уладаю царкву ў Парэччы, але да гэтага часу ніякія працы ў храме не пачаліся. Актыўны ўдзел у ліквідацыі крыжу браў таксама і старшыня сельсавету Васіль Падрэцкі да намесьнік старшыні райвыканкаму Тарсуноў.

Сёлетняя акцыя пачалася з урачыстага шэсьця калёны «Края». Аддзел беларускіх нацыяналістаў, апранутых у камуфляж і чорныя бярэты з сымболікай арганізацыі «Край» і беларускага нацыяналізму раніцай 4 жніўня прайшоў праз вёскі Васілевічы і Парэчча да мясцовай царквы. На чале калёны краёўцы несьлі крыж з шыльдай, на якой былі напісаны такія словы: «Ва ўшанаваньне памяці беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806 - 1833) і ягоных паплечнікаў, якія ахвяравалі свае жыцьцё ў барацьбе за вызваленьне Беларусі ад расейскага царызму».

Не абыйшлося і без інцыдэнту. Падчас усталяваньня крыжу да ўдзельнікаў акцыі пад'ехала міліцэйская машына з чатырма супрацоўнікамі ворганаў унутраных справаў. Яны паспрабавалі спыніць акцыю, але зь імі была праведзеная тлумачальная размова, пасьля якой міліцыянты хутка пакінулі месца. Пасьля ўсталяваньня крыжу вышкальна-рэйдавая група арганізацыі «Край» арганізавана перапраравілася праз раку Шчара й вырушыла па вызначаным маршруце.

**Пятро Краёвец**

# «Адна ёсьць толькі ў сьвеце Беларусь»

## Невядомыя вершы Ларысы Геніюш

(Працяг. Пачатак у мінулым нумары.)

***

Памёр паэт сягоньня, ціхай ноччу.
З вачэй народу сьлёзы паплывуць.
А халуі вось паміраць ня хочуць,
а халуі свой век другі жывуць.

Зграе той, каму агонь даступны,
ўзьлятае той,
хто прэч адкінуў страх.
Той не згарыць, хто поўзае на пупе
і ліжа бот,
той за жыцьця ўжо – прах!

Хто гне хрыбет, хто поўзае –
той сьлізкі,
дастойны брат за ім не папаўзе.
Адкіне ён, як гадзіну, падлізу,
жаль, на падлізаў нам яшчэ вязе.

Паэты мруць, а плодзяцца такія,
якім вачэй да сонца не падняць,
на боль братоў сьляпыя і глухія.
Ім толькі бот скрываўлены лізаць.

***

Я ідалам ні дарам, ні за грошы
хвалебных песьняў-гімнаў не пяю
і мову родную ў ахвяру не прыношу –
адна стаю.

Бо нат у сьцюжы
перад сьмерцю белай
сьвятых ў пакутах
не зраклася праўд.
Мой шлях — як бой.
Ўсё ж абмінаюць стрэлы
маё чало. Такі загад?

Адна стаю, ня час яшчэ ў магілу.
Мой лук і меч – цярпеньне і любоў.
А прыйдзецца –
за лёс Радзімы мілай
аддам я да апошняй кроплі кроў!

***

Чало – у поце, далоні ў працы,
у сэрцы туга.
На душах нашых, як на сабацы, —
сьлед ланцуга.

У цела народу ўпіўся вякамі –
пара скідаць!
Ланцуг сабачы, яго клыкамі
не разарваць!

Чорныя брацьця – Гвінея, Гана —
ў свабоды час
з сумам у сэрцах, ужо раскаваных,
глядзяць на нас.

Мова народу ў аковах гіне —
годзе душыць.
Калі нам з рук той ланцуг ня скінуць –
скіньма з душы!

***

Сонца. Надзейны, іскрысты шлях.
Дзень, ад сьлёзаў не затуманены.
Мысьляў свабодных
адчайны размах
над Краем маім закайданеным.

Вартыя, слаўныя тыя ў жыцьці,
хто з годнасьцю чалавечай.
Лозам — згінацца, зьмеям – паўзьці,
а людзям – выпростваць плечы!

ПАРА КОНЯЎ

Пара коняў із грывай, як косы.
Чэша вецер гнядое прадно.
З-пад капытаў, з-пад кутых калосаў
толькі сыплюцца іскры агнём.

Бы на крыльлях, ўначы пралятаем,
ў сэрца зораў асыпаўся жар;
вецер польны мацней абдымае
ды цалуе і песьціць у твар.

Месяц вострыць аб неба сталь-рогі,
зіхаціць над прасторам палёў.
Быццам нанач ля ціхай дарогі
вецер косы бярозам расплёў.

Пара коняў і сэрца бяз страху
на радзімых дарогах ўначы...
У нястрымным разгульным размаху
Ад вятроў мы ня можам ўцячы!

1942

СЬПІ, МОЙ СЫНОЧКУ

Сьпі, мой сыночку,
сьпі, галубочку, —
птушкі сьпяць;
буду цябе я
песьняй лялеяць,
калыхаць.

Месячык сьвеціць,
гольлямі вецер
у вокны б'е,
ня сьпіць, гуляе,
баечкі бае,
у ноч пяе.

Сон сплыў на зямлю,
птушачкі дрэмлюць, —
сьпі ж і ты;
весела ўстанеш,
як дзень прагляне
залаты.

Анёльчык блізка,
я над калыскай
ночы й дні
сон твой трывожны
верна старожым, —
сьпі ж, засьні!

1942

***

Зацьвітаюць чаромухай вёсны.
Бродзіць лугам туман палавы.
Людзі крыльлі ўздымаюць у космас,
людзі ходзяць нагамі ў крыві.

Ўсе мы сталі крылатыя раптам,
многа сіл, многа дум – цесна жыць.
Запрагаем маленечкі атам
неакелзанай волі служыць.

Хваляваньня людзкога прыбоі,
Магельляна ў плывуць караблі...
Сэрцу цесна, крыві неспакойна
на маленькім гарэшку зямлі.

СЫНУ

Пасадзіла дрэўца на чужым загоне,
каб яно квітнела, каб яно расло.
А самую ў буру пад цяжкія стогны
супрацьбелай сьмерці
доляй панясло.

Паміраць ад болю не давала сэрца,
ў цяжкія хвіліны цешыла яно,
што квітнее недзе дарагое дрэўца
зь цёплаю вясною, з сонцам заадно.

Хай расьце магутна, о, няхай красуе,
налівае гольле сокамі зямлі –
марыла у путах у пургу ліхую
маці, ад якое сына узялі.

Жаль, ня кожна дрэва вырастае ў сіле,
і ня ўсе малітвы выслухае Бог...
Адшукалі дрэўца, корань атруцілі,
і дубочак ў неба ўжо расьці ня змог.

Толькі вецер з гора
прыпаў да зарніцаў,
вербы яго ў полі ўцешыць не змаглі.
Не адной магілай вораг ганарыцца,
не адным дубочкам,
вырваным зь зямлі.

МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

Восень, шуміць наваколле
лісьцем пажоўклым ля ног.
Дзе вы, мой сябра Мікола –
крывіч зь незабытых эпох?

Душа ваша праўды шукае –
я бласлаўляю яе.
Гісторыя ў агні не згарае,
Гісторыя ў зямлі не гніе!

Гісторыя толькі прыстала,
і сэрца народу – ня рэч.
Гісторыя ўздымае забрала,
і праўда выцягвае меч!

Мы з вамі – праўд вечных ахова,
крывіцкіх, якім не сатлець.
На стражы Гісторыі, Слова
стаяць будзем верна, насьмерць!

Дождж пасыпаўся кволы,
на золата лісьцяў ля ног.
Дзякуй вам, сябра Мікола,
за праўду з далёкіх эпох!

**Падрыхтаваў Міхась Скобла**

## Беларусачкі пацярпелі фіаска

**Няўдала скончыўся для жаночай моладзевай зборнай Беларусі адборачны турнір Чэмпіяната Еўропы па баскетболе, які прайшоў 8-12 жніўня ў Румыніі. Наша зборная заняла ў сваёй групе трэцяе, «непраходное», месца.**

Беларусь перамаглі зборныя Румыніі і Літвы, аднак паразы ў гульнях са славачкамі і мадзьяркамі перакрэслілі ўсе надзеі беларускай зборнай на выхад у фінальную частку Чэмпіяната Еўропы. Пераможцы беларусак і выйшлі ў фінал.

Адзінае, што можа суцешыць беларускіх дзяўчат - гэта індывідуальныя перамогі. Лепшай бамбардыркай турніру стала разыгрываючая зборнай Беларусі і гарадзенскай «Алімпіі» Надзея Дрозд. Цэнтравая Алена Леўчанка ў сваю чаргу стала лепшай па колькасці падбораў.

## «Нёман» пачынае з перамогі

**Першыя таварыскія гульні ў гэтым сезоне правялі хакеісты гарадзенскага «Нёмана».**

У пятніцу гарадзенцы на сваёй пляцоўцы перамаглі магілёўскі «Хімвалакно»: 4:2. Вызначыліся ў «Нёмана» Сцефановіч, Лантратаў, а Пстыга - двойчы.

Склад «Нёмана» ў гэтай гульне быў наступным: **Казачкін (Мельнікаў, 31); Калмычкоў - Нічыўкін, Дзееў-Смірноў-Чух; Пячонкін-Жданаў, Лісічкін-Сцефановіч-Галавіноў; Кулянок-Аўчыннікаў, Сідараў-Пстыга-Лантратаў; Гржылеўскі-Каршуноў, Чурабаеў-Кадыраў-Мінін, Гаўрылаў-Маісеенка-Дубень.**

У панядзелак і аўторак у госці да чэмпіёна Беларусі «Нёмана» завітаў наваполацкі «Палімір». Гульня ў панядзелак завяршылася перамогай гасцей 5:4 (галы ў «Нёмана» закідвалі Пстыга, Чух, Лісічкін, Гаўрылаў). На наступны дзень «нёманцы» ўзялі рэванш -6:4.

У складзе «Нёмана» на апошнім рубяжы дэбютаваў Анатоль Казачкін з казанскага «АК Барса-2». А вось ад паслугаў двух Андрэяў - Гржылеўскага і Мельнікава - «Нёман» вырашыў адмовіцца. У першай гульні колер «Хімвалакно» абаранялі гарадзенцы Руслан Белы і Андрэй Гідрэвіч. Аднак пасля гэтай гульні абодва паспрабуюць зноў замацавацца ў «Нёмане».

На прагляд у Гродна павінен прыехаць брамнік электранайскай «Энергіі» Арунас Алейнікавас.

20-24 жніўня гарадзенцы прымуць удзел у Кубку Беларусі «Крыніца». «Нёман» патрапіў у групу «А», гульні якой пройдуць у Берасці. 20 жніўня «Нёман» сустракаецца з моладзевай зборнай Беларусі, 21 - з «Брэстам», 22 - з «Гомелем», 24 жніўня адбудзецца фінальная гульня.

# Узнагароды з жаночым абліччам

**Як і планавалі спецыялісты, беларуская лёгкаатлетычная зборная вярнулася з чэмпіяната свету з чатырма ўзнагародамі, дзякуючы якім нашая зборная заняла высокае 11-ае месца ў неафіцыйным камандным заліку. Усяго ж медалі заваявалі спартоўцы з 42-х краінаў.**



Адна з пробаў Эліны Зверавай

Уладальніцамі ўзнагародаў сталі яшчэ дзве беларускія прадстаўніцы прыгожага полу: Валянціна Цыбульская і Эліна Зверава. Яны да «золата» ў штурханні ядра гарадзенкі Яніны Карольчык і «серабра» ў семібор'і Наталлі Сазановіч дадалі яшчэ дзве ўзнагароды другой пробы.

Другое месца ў спартыўнай хадзьбе Валянціны Цыбульскай выглядае прыемнай нечаканасцю. Раней адзначалася 32-х гадовая спарцменка трэцім месцам на сусветным першынстве чатырохгадовай даўніны.

А спартоваму доўгажыхарству Эліны Зверавай, ветэраны беларускай лёгкай атлетыкі, можна толькі пазайздросціць. Алімпійская чэмпіёнка ў мятанні дыску Эліна ў пачатку года атрымала чарговае пашкоджанне, якое не дазволіла ёй прыняць удзел ні ў адным сёлетнім спаборніцтве. А вось на чэмпіянаце свету беларуска выйшла ў круг і мятнула дыск на 67,10, што прынесла ёй чарговую сусветную ўзнагароду.

# Яўген Кашкаха: «Азот» пазмагаецца за бронзу»

**Параза (4:2) у суботняй гульне ад пінскага «Аўтамабіліста» скасавала нават тэарэтычныя шансы гарадзенскага «Азота» на залатыя і сярэбраныя ўзнагароды чэмпіяната Беларусі па матаболу.**

Гульня апошняга, дзесятага тура, стала дакладнай копіяй сустрэчы тыднёвай даўніны гэтых жа супернікаў. Матабалісты прадубльвалі не толькі лік, а і сцэнар гульні. Розніца была толькі ў тым, што гэтым разам гаспадарамі былі матабалісты Гродна.

Гульню нашы землякі пачалі вельмі ўпэўнена. У нападзенні праглядалася думка і спроба заканчваць кожны «наезд» ударам па браме суперніка. У складзе «Азота» вылучаўся лепшы бамбардыр Анатоль Багданец. Гульню ў абароне цэментаваў гуляючы трэнер гарадзенцаў Яўген Кашкаха. Ён не адночы прыходзіў на дапамогу нашаму брамніку Мікалаю Ільюдчыку. Першы перыяд скончыўся 1:1.

У другім перыядзе другі гол у гульні Анатоля Багданца вывеў гарадзенцаў наперад - 2:1.

Другая дваццаціхвілінка ў выкананні гарадзенцаў была адной з лепшых у сёлетнім чэмпіянаце. Нельга было даць веры, што супернік «Азота» з'яўляецца лідарам нацыянальнага першынства, а аснову пінчукоў складаюць матабалісты зборнай Беларусі. Аднак усё змяніў трэці перыяд.

У чарговы раз выявілася старая хвароба гарадзенцаў, для якіх канцоўка гульні ўжо каторы раз становіцца фатальнай. Да таго ж паломка тэхнікі пазбавіла нашых землякоў добрай пары ачкоў. А іх можа не хапіць «Азоту», каб упершыню ў гісторыі гарадзенскага матабола ўзняцца на прыступак п'едэсталу нацыянальнага першынства. На трэцім адрэзку гульні «Аўтамабіліст» забіў «Азоту» тры галы, на што гарадзенцы адказаць як след не здолелі.

Гэта і стала вырашальным. Пінчукі гуляючы завезлі ў нашую браму тры безадказных мячы і выйшлі ў адзіныя лідары чэмпіянату.

***- Вельмі цікавай была гульня. Нам супрацьстаяла, безумоўна, наймацнейшая каманда нашай краіны. Мы стараліся, спрачаліся, зрабілі ўсё, што маглі. Але зноў нас падвялі нашыя матацыклы... Мы прайгралі, - вынік гульні каментуе ПАГОНІ галоўны трэнер «Азота» <u>Яўгена Кашкахі</u>. Спадзяюся, што такі настрой у хлопцаў захаваецца да «разборак» за медалі. Я ўпэўнены, што за сярэбраныя ўзнагароды са сталічнай «Зарой» мы пазмагаемся. Аб'ектыўна, наша каманда мацнейшая за менчукоў.***

Пасля дзесяці тураў першы радок утрымлівае пінскі «Аўтамабіліст», у яго 18 ачкоў, далей ідуць «Ніва» (Лунін) - 16 ачкоў, «Зара» (Менск) - 10, «Азот» (Гродна) - 9, «Аўтамабіліст» (Наваполацк) - 5, «Юнацтва» (Пінск) - 2.

З 17 па 19 жніўня першая чацвёрка камандаў збяраецца ў Пінску, дзе паміж сабой па трохтуравай сістэме вызначаць уладальнікаў узнагародаў нацыянальнага першынства. Прычым падлік ачкоў будзе весціся з набранымі на першым этапе.

Расклад гульняў матабалістаў «Азота»: 17 жніўня - «Аўтамабіліст», 18-га - «Ніва», 19-га - «Зара».

# Суліма заваёўвае давер

**У аўторак моладзевая зборная Беларусі па футболе ў Барысаве правяла таварысцкую гульню з равеснікамі з Грэцыі.**

Нашы футбалісты былі мацнейшыя: 2:0. Усе галы былі забітыя ў другім тайме. На 81-й хвіліне лік адкрыў паўабаронца Сяргей Казак, а на апошняй хвіліне гульні другі гол забіў нападнік Генадзь Блізнюк.

Прыемна, што ўрэшце рэшт галоўны трэнер беларускай моладзі Юрый Пунтус даверыў апошні рубеж абароны брамніку нашага гарадзенскага «Нёмана-Белкарда» Аляксандру Суліме. Гарадзенец адгуляў першыя 45 хвілінаў гульні.

Наступную гульню ў межах адборачнага туру да Чэмпіянату Еўропы 2002 года наша «моладзь» згуляе на сваім полі 31 жніўня са зборнай Украіны. На наступны дзень сустрэнуцца нацыянальныя зборныя.



Аляксандр Суліма

# «Гродна-93» дэбютуе ў ПЕБЛ

**Дакладна сталі вядомыя графік гульняў і склад супернікаў баскетбалістаў «Гродна-93» па іх дэбютным чэмпіянаце Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лігі (ПЕБЛ).**

На першым этапе гарадзенцы патрапілі ў групу «В», разам з «Алітай» (Літва), «Хонкай» (Фінляндыя), «Адэсай» (Украіна), «Рыгай» (Латвія), «Оліверам» (Германія), «Кёльнам» (Германія), «Калевам» (Эстонія), «Палоніяй» (Польшча).

Пасля аднакругавога турніру па пяць лепшых камандаў дзвюх групаў выйдуць у наступны этап. Астатнім васьмі прыйдзецца адстойваць сваё месца ў Лізе ў суцяшальным турніры.

Тым часам, лагер «Гродна-93» разбіўся на дзве часткі. Першая - Пынцікаў, Шарко, Васілеўка, Коршук, Місючэнка і галоўны трэнер гарадзенцаў і зборнай Беларусі Аляксандр Барысаў - у Стайках у складзе зборнай рыхтуецца да адборавых гульняў да Чэмпіяната Еўропы 2003 года. Другая - Квашчук, Прыйма, Качан, Бяссмертны, Чарняк і navaбранцы Кавалюнас, Цішанкоў, Пагробнёў, Сарасек - рыхтуецца ў Гродна да шведскага турніру.

У складзе «93-х» адсутнічае Руслан Насенка. І гэты год Руслан пачне гуляць у другой камандзе. Перамовы па ўзмацненні «Гродна-93» Кажанцом і Кучынскім ні далі станоўчага выніку. Таму кіраўніцтва гарадзенцаў тэрмінова звязалася з беларусам Мікалаем Аляксеевым, цэнтравым маскоўскага «ЦСКА». Аднак Мікалаю неабходна стварыць фінансавыя ўмовы, не горшыя, чым у Расеі, дзе яго заробак складае каля 7000 амерыканскіх рублёў у месяц.

Пакуль невядома, дзе будуць праводзіць хатнія гульні гарадзенскія баскетбалісты. Няма ў Гродне баскетбольнага паркету, які б дазволіў гуляць у Лядовым палацы. А гэта з'яўляецца адным з галоўных патрабаванняў кіраўніцтва ПЕБЛ. Не прыступалі яшчэ і да рамонту 20 пакояў гатэлю «Беларусь», дзе будуць размяшчацца прыезджыя баскетбалісты. А гэта ставіць пад пытанне ўдзел «Гродна-93» у ПЕБЛ. Тым больш, што да першых хатніх гульняў гарадзенцаў засталося крыху больш, чым паўтары месяцы.

**«Гродна-93» у ПЕБЛ:**

**<u>ХАТНІЯ ГУЛЬНІ</u>**

7-9 кастрычніка «Калеў», «Хонка»; 29-30 кастрычніка «Аліта»; 17-18 снежня «Палонія»

**<u>ГУЛЬНІ НА ВЫЯЗДЗЕ</u>**

19-21 кастрычніка «Адэса»; 3-4 снежня «Рыга»; 10-11 снежня «Кёльн»; 11-12 снежня «Олівер»

**Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі**

КРЫМІНАЛ

# Зямля беларуская - наркотык цыганскі і літоўскі

**3,5 тоны маку-сырцу выявіла і знішчыла ў Шчучынскім раёне аператыўная група Упраўлення КГБ па Гарадзенскай вобласці сумесна з Упраўленнем нораваў і барацьбы з незаконным абаротам наркотыкаў УУС Гарадзенскага аблвыканкама.**

Як паведамляецца ў прэс-рэлізе КГБ, распаўсюджаным 13 жніўня, незаконныя пасевы алейнага і опіумнага маку былі выяўленыя на гаспадарках жыхароў вёсак Прудзяны, Громкі, Глушні. Да адміністрацыйнай адказнасці за высяванне маку былі прыцягнутыя 14 жыхароў гэтых вёсак. У дачыненні да жыхаркі вёскі Громкі, на прысядзібным участку якой было выяўлена і канфіскавана 120 кілаграмаў галовак маку, узбуджаная крымінальная справа.

Паводле папярэдніх дадзеных следства, ініцыятарамі пасеваў і заказчыкамі наркасыравіны з'яўляюцца лідары злачынных груповак Літвы і прадстаўнікі цыганскай дыяспары Гарадзенскага рэгіёну.

**Павал Мажэйка**

# Анекдоты!

*Прыязджае Рыгоравіч з афіцыйным візітам у Штаты. Хоча купіць у індзейцаў зямлі пад бульбачку.*

*Правадыр індзейцаў кажа: - Чым расплочвацца будзеце?*

*Рыгоравіч прапануе салігорскі бурштын, рэчыцкія пацеркі, пухавіцкія люстэркі...*

*На што правадыр адказвае: - Індзейцы - не дурні! Грошы давай!*

*Рыгоравіч дастае пачак беларускіх разліковых білетаў і аддае іх правадыру.*

*Правадыр індзейцаў паглядзеў на іх, узлыхнуў і вымавіў: - Ды не! Гады ўжо лепей пацеркі давай!*

* * *

**Селектарная нарада некалькі гадоў таму.**

**А.Р.: - Заламай, пачаму не закончыў уборку?**

**Заламай: - Дык даждж...**

**А.Р.: - Заламай, ты прасіл у меня дождь, я табе яго паслал.**

**Заламай (пра сябе): - Вось балван, трэба ж пасылаць, калі просяць, а не калі косяць...**

* * *

Пытанне армянскаму радыё: - Каго б вы абралі Прэзідэнтам - Крыжаноўскага ці Лукашэнку?

Адказ армянскага радыё: - Лепей жыць у добрым тэатры, чым у кепскім цырку...

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 15.08.2001 г. Замова 2336 Наклад 7875

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Ірына Салей
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей